# Серыя “Промні ліхтарыка”



Творчасць вучняў
**4 “А” класа** - удзельнікаў **гуртка “Ліхтарык”**

Кіраўнік **Грынь Р.В.**

**Барысаў, 2012 год**

# Легенды



**Восень** - параназіранняў, якая натхняе на разважанні і фантазіі аб існасці з’яў і рэчаў.

Менавіта **легенда** сярод іншых жанраў літаратуры найбольш спрыяе выяўленню такой творчасці.

# Чаму чалавек не мае крылаў



Раней у чалавека замест рук былі крылы. Ён мог лятаць, куды хацеў.

У адной вёсцы жыў хлопец Андрэй. Жылося яму нядрэнна, ён любіў чытаць, ведаў шмат казак, прыкмет. Аднойчы Андрэй прачытаў у адной кніжцы, што чалавек можа жыць без крылаў, мець замест іх рукі, пры дапамозе якіх можна рабіць усялякую справу: сеяць, шыць, вязаць. Вельмі захацелася яму мець гэтыя рукі! Пайшоў ён у поле, стаў на калені ды пачаў маліцца - прасіць у Бога рукі.

Пачуў Бог малітвы і здзівіўся:

- Нашто табе рукі? Хіба ты дрэнна жывеш без усякіх спраў і клопату, лётаеш куды захочаш?

Прызнаўся Андрэй, што прачытаў пра рукі ў кніжцы, і яму вельмі захацелася іх мець.

- А ці не пашкадуеш ты потым, бо я больш не дам табе крылаў? - спытаўся Бог.

- Нашто мне крылы? Толькі лётаць…, - адказаў Андрэй.

Даў Бог хлопцу рукі, і той радасны вярнуўся дамоў. Андрэй навучыўся рабіць шмат розных спраў. Яго праца спадабалася людзям, і яны таксама папрасілі ў Бога рукі.

З той пары жывуць людзі без крылаў.

***Панкавец Ксенія***

# Пра бярозку

Жыла на свеце прыгажуня. Ніхто не мог параўнацца з ёй у прыгажосці. На яе твары зіхацелі, як дыяменты, чорныя вочы, а прыгожыя валасы развіваліся на вятру.

Кожнага дня сядзела яна на высокім узгорку каля ракі і любавалася наваколлем.

Закахаўся ў  прыгажуню злы чараўнік і пасватаўся да яе, але атрымаў адмову. Тады злодзейператварыўся ў арла, кінуўся да дзяўчыны з вышыні і  скінуў у раку. З той пары лзяўчыну ніхто не бачыў.

А на ўзгорку, дзе так любіла сядзець дзяўчына, вырасла дрэва, якое было падобнае на яе. У дрэва быў белы ствол, як твар дзяўчыны, а тонкія галінкі развяваліся на ветры, як дзявочыя валасы. Кожнага дня прылятаў да дрэва арол і доўга сядзеў побач.





***Карачун Іван***

## Чаму кот языком мыецца

Аднойчы кату вельмі захацелася смятаны, якую баба паставіла ў слоіку на стол, а сама пайшла на агарод. Коцік доўга хадзіў вакол стала і жалобна мурлыкаў. Потым не вытрымаў, скокнуў на стол і лізнуў смятанкі са слоіка. Потым яшчэ і яшчэ…, бо вельмі ж смачнай была тая смятана! Так ён і злізаў яе ўсю, і сыты лёг адпачываць. Калі баба ўбачыла пусты слоік, то стала сварыцца на дзеда. Кот прачнуўся, салодка пацягнуўся, і тут усе заўважылі  на яго вусах смятану. Цяпер ўсё стала зразумела.

З той пары каты сталі языком мыцца.



***Клімковіч Ліза***

## Чаму сабака жыве на двары, а кот у хаце

Быў такі час, што вельмі шмат мышэй у дамах развялося. Людзі не ведалі, што рабіць. Вырашылі яны пусціць у хату сабаку і ката, каб яны там жылі ды мышэй лавілі. Кот адразу пачаў хапаць мышэй, а сабака сеў каля дзвярэй ды давай выць. Ну і выгналі яго на двор, а кот застаўся ў доме.

З таго часу і павялося: каты жывуць у хаце, а сабакі на двары.



***Каламеец Валерыя***

## Чаму жанчыны косы заплятаюць

Раней жанчыны заўсёды хадзілі з доўгімі распушчанымі валасамі.

Аднойчы адбыўся такі выпадак. Быў цёплы сонечны дзень. Але неўзабаве паднялася вялікая бура. Моцны вецер ламаў дрэвы, зрываў дахі з хат. Адна жанчына бегла дадому, каб схавацца ад непагоды. Вецер валіў з ног, але яна рашуча рухалася наперад. Распушчаныя валасы перашкаджалі бегчы, чапляліся за галінкі дрэў, пакуль зусім не заблыталіся ў кустах. Бура ламала і валіла дрэвы. У той непагодзе жанчына загінула.

З таго часу жанчыны заплятаюць доўгія валасы ў косы.



***Каламеец Валерыя***

# Як з’явіліся каты

Даўно гэта адбывалася. Яшчэ не было тады дамашняй жывёлы, толькі дзікія звяры.

Жыў тады адзін тыгр са сваёй сям’ёй. Аднойчы ён пайшоў на паляванне, ды яно выдалася няўдалым. Пачало цямнець, звяры пахаваліся, толькі філін выглядваў са свайго дупла.

Філіны тады былі чараўнікамі, нездарма ж яны паказваюцца толькі ноччу, і вочы ў іх гараць нездарма!





А тыгру вельмі не хацелася вяртацца з палявання без здабычы, і ён замахнуўся на філіна.

Філін вывернуўся і ў знак пакарання ператварыў таго тыгра і ўсю яго сям’ю ў катоў. Прыйшлося ім падацца бліжэй да людзей, бо самі яны сталі безабароннымі сярод дзікіх звяроў.

Так і з’явіліся каты.

***Юрчанка Паліна***

# Чаму ў бярозкі ствол белы

У адным лесе ўсё было чорнае: кветкі, трава, дрэвы. Аднойчы туды зайшоў мастак. Сумным, нецікавым і нават страшным паказаўся яму лес. Вырашыў мастак усё размаляваць у розныя колеры. Дастаў ён свае фарбы ды пэндзлік і распачаў працу. Размаляваў усе дрэвы, застаўся толькі ствол бярозкі. У мастака ўсе фарбы закончыліся, засталося крышку фарбы белага колеру. Спытаў мастак у бярозкі:

- Ці будзеш ты белай?
- Буду белай, - адказвае бярозка, бо не хачу стаяць чарнастволай.



Стаў мастак размалёўваць бярозавы ствол, ужо амаль увесь размаляваў, але тут закончылася і белая фарба.

Таму зараз у бярозкі ствол белы, толькі дзе-нідзе засталіся невялікія чорныя плямы.

***Панкавец Ксения***

## Пра ягады журавіны

Аднойчы ўвосень журавель сабраўся адлятаць у вырай. Перад адлётам ён вырашыў падняцца ў неба і зрабіць развітальны круг над роднымі прасторамі. Толькі падняўся ён у неба, як раптам пачуў нейкі плач. Пад ім была паляна з чырвонымі ягадамі, якія раслі на імху. Ён спусціўся на паляну і ўбачыў, што плачуць ягады.

- У чым справа? - спытаў журавель, - чаму вы плачаце?

- Дык як жа нам не плакаць, калі ў нас няма нават назвы.

- Завіцеся жураўлінымі, - сказаў журавель, узмахнуў крыламі і паляцеў.

- Жураўліныя, мы - жураўліныя, - радасна загаварылі ягады.

- Людзям, якія прыйшлі іх збіраць, пачулася: “журавіны”.

З той пары гэтыя ягады сталі зваць журавіны.





***Хоміч Алена***

**Што гэта – не скажу,**
**І не спадзявайся!**
**Толькі крышку падкажу,**
**А ты здагадайся.**

# Загадкі



1. Гэта што за бяда: з неба льецца вада,
То не проста вада, для раслін усіх яда.



2. Дождж залаты прайшоў, -
Лес карэнням цёплую коўдру знайшоў.

3. Белае, а не пламбір,
Плыве, ды не лодка.

4. Скача па лузе конік, ды капыт не мае.



5. Падобна на сардэчка,
Прыемная на смак,
Вырасла на градцы,
А завецца як?



6. Дзякуючы авечцы,
Сагрэюць, як на печцы.
Не страшны мне люты,
Калі ў іх абуты.



7. Чорна-белы колер мае
Ды не ствол бярозавы.
Малако дае, смятану,
Мае вілы грозныя.



8. У школу з ім мы ідзём,
Перад сабой яго нясём -
Духмяны, прыгожы,
Падарунак гожы.



9. Ніхто яго не бачыў,
А толькі адчуваў.
Лятаў ён хуткай птушкай
І воблака прыгнаў.



10. З дажджом з’яўляецца.
Усе яе баяцца і хаваюцца.



10. Спраў нямала мае,
Дзетак шкадуе і ласкае,
Але ім не маці.



12. Адгадайце, дзеткі,
Што саладзей за цукеркі?

13. Сама ў зямлі сядзіць,
Толькі хвост уверх тарчыць.



14. Стаіць у агародзе,
Страх на ўсіх наводзіць.





15. Чыё гэта жыллё:
Зверху зялёнае,
Знізу карычневае,
А пасярод акно.

16. Калі ёй работу даў,
Аловак дарэмна працаваў.




17. Свеціць, а не сонейка,
Жывы, а не чалавек.



18. Вялікі, зялёны,
Унутры сочны, чырвоны.



19. На чужых брэша, кідаецца,
Сваіх любіць, ласкаецца.



# Загадкі склалі:

**1-2 - Юрчанка Паліна**
**3 – Бакун Арцём**
**4 – Клімковіч Даніла**
**5 – Гаспадарык Валерыя**
**6 – Зелянкевіч Іна**
**7 – Шэлянкоў Іван**
**8 – Шукан Жэня**
**9 – Карачун Іван**
**10 – Гайдук Надзя**
**11-12 – Курунту Аліна**
**13 – Хоміч Алена**
**14-18 – Панкавец Ксеня**
**19 – Комар Сцяпан**



# Крыжаванкі



















1. На дрэве вісіць матрошка.
2. Жоўты, круглы – кавуну радня.
3. Паласаты, зялёны - унутры смачны, чырвоны.
4. Чырвоныя яблычкі на градзе растуць.
5. Пумпурныя кропелькі па імху рассыпаны.
6. Што за стравус на градзе: зялёны хвост зверху, а галава дзе?

***Крыжаванкі склала Панкавец Ксенія***

**Восень** – вельмі адметная пара года. Супярэчлівая, яна мае свае ўласцівасці, якія ўплываюць на нашы справы, на наш настрой.

**Якія ўласцівасці мае восень?**
**Якія справы нам дыктуе?**

**Аб гэтым**

# Нашы назіранні



# Прыкметы восені

1. **Падае лісце.**



2. **Паспелі журавіны.**



3. **Птушкі адлятаюць.**



4. **Часта ідуць дажджы.**



5. **Звяры мяняюць футра.**



6. **Лясныя жыхары робяць прыпасы.**



**7. Лісце на дрэвах жаўцее.**



**8. Дзень становіцца карацейшым, а ноч даўжэйшай.**



**9. Пахмурнае надвор’е.**



**10. Частая змена надвор’я.**



**11. Сонца слаба грэе.**



**12. Насякамыя хаваюцца.**



.

**13. Першы снег.**



# Сваімі назіраннямі падзяліліся:

**1 – Шалянкоў Іван**
**2 – Клімковіч Ліза**
**3 – Гаспадарык Валерыя**
**4 – Чарнаускас Аляксандр**
**5 – Музыкантаў Яўген**
**6 – Юрчанк Паліна**
**7 – Бакун Арцём**
**8 – Клімковіч Даніла**
**9 – Каламеец Валерыя**
**10 – Зелянкевіч Іна**
**11 – Курунту Аліна**
**12 – Шукан Жэня**
**13 – Хоміч Алена**





# Увосень работ восем

1. Збіраюць ураджай.








2. Дзеці ідуць у школу.



3. Уцяпляюць жыллё.

4. Зграбаюць лісце, наводзяць парадак.







5. Збіраюць грыбы.



6.Топяць печку .

7. Кансервуюць садавіну і агародніну.



8. Загатаўляюць дровы





**9. Капаюць бульбу**

**10. Збіраюць яблыкі**



## За справамі назіралі і ў іх ўдзельнічалі:

**1- Панкавец Ксеня**
**2 – Комар Сцяпан**
**3 – Гаспадарык Валерыя**
**4 – Чарнаускас Аляксандр, Юрчанка Паліна**
**5 – Хоміч Алена**
**6 – Бакун Арцём**
**7,8 – Курунту Аліна**
**9 – Каламеец Валерыя**
**10 – Зелянкевіч Іна**



# Мары аб леце

Адспявала лета,
Дождж ідзе наўкола.
Заўтра з новай сумкай
Я пайду ў школу.
Хутка праляцелі
Цёплыя дзянёчкі,
Летнія канікулы,
Нібы матылёчкі.
Хачацца пабегаць
Ды павесяліцца,
Але трэба ў школе
За парту садзіцца.
Сумаваць не будзем:
Праімчыцца восень,
І каток з канькамі
Да сябе запросіць.
Ну а там увесну
Разам з сябрукамі
Змайструем караблікі
Сваімі рукамі.
Плывіце, караблікі,
Ды лету скажыце,
Што чакаюць дзеці,
Калі яно прыйдзе!



**Каламеец Валерыя**



## Восеньскі настрой

Пафарбавала восень дрэвы,
Зямля рыхтуецца к зіме.
А птушкі ў вырай паляцелі,
І стала сумна на дварэ.



**Зелянкевіч Іна**



## Восень – рыжая ліса

Восень, восень к нам прыйдзе,
Садавіну прынясе:
Яблыкі ды слівы,
Чырвоныя маліны.
Грыбнікі пойдуць у лясок,
Ды і знойдуць там грыбок.
А пад вечар на паляне
Можна стрэць неспадзявана
Ваўка, зайца ды лісу –
Рыжаватую красу.



**Панкавец Ксенія**



## Прыкметы восені

Восень наступіла – трэба працаваць,
Ураджай збіраць:
Ягады, грыбы – восені дары.
Лісце з дрэў ляціць,
Пад нагамі шалясціць.
Ліпы і бярозы чакаюць марозы.
Дуб раняе жалуды.
Наступілі халады.



**Клімковіч Ліза**



## У прадчуванні зімы

Хмары. Мары. Лістапад.
Кожны лісцік сонцу рад.
Ападаюць лісты – і дыван залаты.
Наступіла грыбная пара.
Гэй! Грыбнікі! У лес ісці пара.
А лісце сцелецца, як залатая мяцеліца…
Ліпы і бярозы не жадаюць марозаў,
На цяпло спадзяваюцца дарма, -
Прыбліжаецца халодная зіма.



**Курунту Аліна**



## Восень

Падае лісце, кружаць вятры.
Людзі стараюцца сабраць усе плады.
Хмары па небу плывуць,
Нудны дождж да нас нясуць.



**Юрчанка Паліна**



## Восеньскія клопаты

Восень тчэ павуцінкі,
Напаўняе бульбай скрынкі,
Прымушае працаваць –
Ураджай збіраць.
Ураджай збяром,
ды ў лясок пайдзём,
А ў лесе каля сцежкі
Прытаіліся сыраежкі.



**Хоміч Алена**



## Бывай, лета



Закружыла восень лісце –
Жоўтая мяцеліца.
Яно падае пад ногі,
Пакрывалам сцелецца.

І па хвалях ракі паплылі
Каляровыя караблі:
Жоўтыя, чырвоныя,
Зялёныя, барвовыя.

Адлятаюць птушкі ў вырай,
Пакідаюць родны край.
Развітальны жураўліны клін,
Бывай!

**Гаспадарык Валерыя**





## Лістапад

Раніцай туманы,
Хутка сонца ўстане.
Лісце з дрэў ляціць,
Ціха шалясціць.

Лес як анямеў,
Не звініць птушыны спеў.

Ужо сабралі ўраджай,
Поле апусцела.
Ды ўсё падае ліства,
Засцілае дол яна.

**Шалянкоў Іван**





# Змест